Рада Культуры Беларускіх Студэнтаў Бюлетэнь №І-2/8-9/ Варшава І988г.

# СУСТРЭЧЫ

ЧАСОПІС БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ПОЛЬШЧЫ

ПЕРШЫ ГРОМ УДАРЫЎ НАД ВАВЕЛЕМ.



Працяг на стар.6

# Парушыць з месца

"Жывуць сярод нас нацыянальныя меншасці",такі загаловак мае артыкул прафесара Ежы Тамашэўскага ў часопісе "Політыка" ад 16 студзеня 1988 г."Політыка",гэта самы папулярны грамадска-палітычны тыднёвік у Польшчы.Ягоны тыраж 400 тысяч экзэмпляраў.
Ежы Тамашэўскі - прафесар Варшаўскага універсітэта,гісторык,працуе на аддзяленні грамадска-палітычных навук.Цікавіцца таксама нацыянальнымі меншасцямі,доказам чаго дзве кніжкі папулярнага характару:"Рэчыпаспалітая народаў" і "Айчына не толькі палякаў".Вядомы як публіцыст.Не раз пісаў пра беларусаў у Польшчы,заўсёды прыхільна.Доўгія гады быў адным з нешматлікіх прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі,якія ўвогуле заўважалі нацыянальныя меншасці ў ПНР.Зараз становішча змянілася.Можна наглядаць даволі вялікае зацікаўленне беларусамі,літоўцамі,украінцамі,жыдамі і іншымі.Ці мае яно нейкі ўплыў на жыццё нашых землякоў на Беласточчыне? На жаль,адказ тут даволі просты.Калі вылучыць жменьку інтэлектуалістаў,невялікую групу студэнтаў і людзей,якія абавязаны сачыць за справай па сваёй прафесіі,беларусы зусім гэтага не заўважаюць.На іх штодзённае жыццё зніякага ўплыву гэта не мае,а і само зацікаўленне,у большасці,абмяжоўваецца яно да кругоў звязаных з каталіцкай або апазіцыйнай прэсай /хто на Беласточчыне яе чытае?/.
Артыкул праф.Тамашэўскага,гэта нешта выключнае,перад усім з увагі на шэраг канкрэтных прапаноў.Думаю,што трэба нам неяк паставіцца да іх.На пачатак даволі доўгая цытата: "У пасляваенны час беларуская,літоўская і украінская грамадскасці не мелі сваіх інтэлектуальных праслояк,а састаўлялі іх выключна мужыкі.Існуючыя перад вайной асяроддзі творчай інтэлігенцыі і палітычных дзеячоў рассеяліся.Некаторыя пасяліліся ў рэспубліках Савецкага Саюзу,іншыя - асабліва тыя,якіх называлі нацыяналістамі - эмігравалі, частка загінула ў вайну,а былі і такія,якія супрацоўнічалі з немцамі,яны пайшлі пад суд./.../ Новыя дзеячы пачалі вырастаць толькі ў пяцідзесятыя гады,калі ўзнікалі грамадска-культурныя таварыствы.Тыя,якія ў будучыні мелі скласці інтэлектуальную праслойку,здабывалі толькі адукацыю.Культурная дзейнасць зводзілася да захоўвання народных абычаяў,песняў,танцаў,вышыўкі і вопраткі.Імкненні і магчымасці далей ісці не маглі і не ішлі./.../ Арганізацыйныя формы культурнага жыцця меншасцяў не змяніліся і сёння,і - як некалькі год раней - абмяжоўваюцца яны да сціплых магчымасцямі таварыстваў.Беларусы і ўкраінцы працуюць сёння на універсітэцкіх кафедрах,але надалей трэба ім задаволіцца тыднёвікамі,якія вырастаюць з традыцыі выдавецтваў "для простага люду" ды календарамі.Час ад часу здарыцца невялікі зборнік вершаў..."
Беларускі студэнцкі рух у Польшчы з'яўляецца адным з галоўных паказальнікаў змен,якія адбыліся ў нашым грамадстве.Незалежна ад жахлівай паланізацыі нацыянальная свядомасць часткі маладога пакалення павысілася,таксама, як і яе культурны ўзровень.Гэта яны,або скажу прасцей,гэта мы -удзельнікі рэйдаў,атрасінаў,гледачы канцэртаў,дэлегаты на студэнцкі з'езд - патрабуем зараз форм нацыянальнага жыцця адпавядаючых сучаснаму свету.
Праф.Тамашэўскі піша: "Сорамна сказаць,што не заўважылі мы,як змяніўся час,а затым,супольна з усёй краінай і нацыянальныя меншасці.Не заўважылі мы,што далёка ў мінулае адышлі гады,калі можна было адносіцца да іх, як да малаадукаваных мужыцкіх грамадскасцяў."
Можам толькі пацвердзіць вывад прафесара,заяўляючы пры тым,што рэзка адчуваем усю ненармальнасць існуючага становішча і бачым неадкладную патрэбу яго змены.Хочам развіцця роднай культуры.Хочам знайсці ў ёй сваё месца! Большасць беларускіх студэнтаў вяртаецца на Беласточчыну.Працуюць яны ў розных галінах,прыносячы карысць усёй дзяржаве.Так яно і павінна быць.Але ёсць і такія,якія хочуць свае веды,талент і працу аддаць для развіцця бе-

ларускай культуры.Можам запытаць,якія маем для гэтага магчымасці? Ці існуюць установы,якія патрабуюць маладога пакалення беларускай свядомай інтэлігенцыі?І ўрэшце,ці нашае грамадства можа забяспечыць матэрыяльны быт для гэтых людзей,якія з'яўляюцца яго інтэлектуальнай элітай,як гэта мае месца ў іншых краінах?
Адказ на гэтыя пытанні вядомы.Тым большую падтрымку даем канкрэтным пастулатам,пастаўленым прафесарам Тамашэўскім.Прапануе ён заснаваць інстытут для вывучэння меншасцяў і беларускае выдавецтва ў Беластоку.Можам да гэтых прапаноў дадаць яшчэ некалькі сваіх: літаратурна-мастацкі часопіс,тэатр,праграма ў радыё,тэлебачанні,музычныя калектывы і г.д. Зараз нават не ў тым справа.Найважнейшае зрабіць пералом,парушыць нешта з месца.Хтосьці можа абрушыцца,што гэта надта многа,што немагчымае з матэрыяльнага пункту гледжання.Многа,таму што трэба адрабляць за тыя гады,калі не рабілася нічога,а матэрыяльна не так гэта зноў і шмат.Зрэшты,трэба даць людзям большую магчымасць прыватнай ініцыятывы,а многія праблемы знікнуць.
Думаю,што наш голас павінен быць узяты пад развагу.Дзяржаўныя ўлады выказваюцца часта за паглыбленнем дэмакратыі,за большым удзелам грамадзян у кіраванні краінай.У момант,калі тысячы польскай адукаванай моладзі імкнуцца пакінуць краіну,мы хочам уносіць свой уклад у яе развіццё.Ці сапраўды павінны мы адчуць сваю тут непатрэбнасць і шукаць шчасця за мяжой? Канчаю яшчэ адной цытатай з артыкула прафесара Тамашэўскага:"/.../думаю, што ў сапраўдна дэмакратычнай Рэчыпаспалітай,усе асяроддзі нацыянальных меншасцяў павінны мець магчымасці забяспечыць свае патрэбы."

Валянцін Сельвесюк

# Тарашкевіч у сейме

Дзеля азнаямлення чытачоў з выдатнымі постацямі беларускай гісторыі, пра якія,на жаль,мы ведаем даволі мала,рэдакцыя "Сустрэч",па меры магчымасцяў,будзе змяшчаць матэрыялы і дакументы, якія непасрэдна звязаны з іх дзейнасцю.
У гэтым нумары прапануем постаць Браніслава Тарашкевіча і некаторыя фрагменты ягоных сеймавых выступленняў.
Восенню 1922 года дванаццаць заходнебеларускіх паслоў заснавалі Беларускі пасольскі клуб,кіраўніком якога стаў Тарашкевіч.У чэрвені 1924г., у Беларускім пасольскім клубе наступіў раскол і частка дзеячоў з Тарашкевічам заснавала клуб Беларускай сялянска-работніцкай грамады.Апынуўся ён у сферы ўплыву Камуністычнай партыі Польшчы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.У студзені 1927г.стотысячная Грамада была разбітая,а яе правадыры арыштаваны польскімі санацыйнымі ўладамі.
На аснове чатырох фрагментаў сеймавых выступленняў Тарашкевіча з гадоў 1923,1924,1925,1926 чытач можа прасачыць эвалюцыю яго палітычных поглядаў у напрамку ўсё больш радыкальным.
Выступленні Тарашкевіча могуць змяніць нашае ўяўленне пра сейм даваеннай Польшчы.Некаторых можа здзівіць свабода,з якой паслы маглі выказваць свае погляды яўна антыдзяржаўнага характару - што з'яўляецца, аднак,характэрнай рысаю ўсіх парламентарных дэмакратый.Але аказваецца, што разрушыць сістэму,нават калі яна дазваляе адкрыта сабе гэтым пагражаць,не так ужо і лёгка.

/рэд./

Стэнаграфічная справаздача з 63 пасяджэння Сейму Рэчыпаспалітай ад 3 жніўня 1923г.

Выступленне Браніслава Тарашкевіча падчас дэбатаў па абмеркаванні правізорнага бюджэта:
-Высокі Сойме! Маем дзве законныя асновы,якія рэгулююць становішча нацыянальных меншасцяў у Польшчы:гэта канстытуцыя,зацверджаная Польскім Соймам амаль што без удзелу нацыянальных меншасцяў,а таксама міжнародныя трактаты.Сёння,калі чакае нас зацверджанне правізорнага бюджэтнага плана /.../ маем абавязак,пакладзены на нас нашымі выбаршчыкамі,запытаць: ці дзяржава лаяльна выконвае ўсе свае абавязкі ў адносінах да грамадзян беларускай нацыянальнасці? /.../
Вось хаця б адміністрацыя.Шмат гаварылася пра тых "крэсавых верхаводаў",не буду гэтага паўтараць,усе мы тут ведаем,што дрэнна дзеецца з адміністрацыяй.А мо мы глядзім на гэта проста з другога боку.Вы панове,хацелі б там паставіць яшчэ больш паліцыянтаў,яшчэ больш сышчыкаў, а мы лічым,што іх і так надта многа.Ад адміністрацыі патрабуем,каб карысталася канстытуцыяй і законамі,а законы гэтыя мусяць абапірацца на канстытуцыі і не могуць пярэчыць трактатам./.../ Можам шмат чаго яшчэ сказаць у гэтай справе /бюджэту -рэд-/,але з увагі на кароткі час выступлення канчаю гэткім прадсказаннем: пакуль палітыка ў адносінах да нас не зменіцца,мы не можам даць свайго placet на бюджэтны прэлімінарый.Гэта яшчэ не абазначае,што мы заклікаем не плаціць падаткаў,але памятайце,панове,што калі такое беззаконне будзе працягвацца яшчэ некалькі гадоў,тады люд наш і падаткі плаціць перастане /Воплескі на лаўках нацыянальных меншасцяў/.

Стэнаграфічная справаздача з 166 пасяджэння Сейму Рэчыпаспалітай ад 4 снежня 1924г.

Дэбаты па абмеркаванні бюджэта Міністэрства зямельных рэформаў.

-Зямельная рэформа - колькі ж разоў чулі мы ўжо гэтыя прыгожыя словы! Ужо з 1919г. званілі ў вушы беларускаму народу пра зямельную рэформу, скланяючы гэтае слова на розныя спосабы.Замест зямельнай рэформы прынеслі нам толькі асадніцтва,а закон аб зямельнай рэформе аддае паслугу не мужыку,ано абшарніку.
Зямельнай рэформы не было і няма.Вы панове гэтай рэформы не зробіце,бо не хочаце яе зрабіць.Зямельную рэформу, мусіць,сам народ зробіць,калі сам возьмецца зямлю дзяліць. /Галасы: Які народ? Якім чынам? /
Усялякі народ,не толькі беларускі і ўкраінскі,але таксама і польскі. Дачакаецеся панове і таго! Дык вось,замест зямельнай рэформы маем асадніцтва,а Міністэрства зямельных рэформаў нічым іншым не ёсць,як толькі міністэрствам каланізацыі.Сродкі,якімі распараджаецца гэтае Міністэрства,у большасці,гэта фонд на асадніцтва і толькі асадніцтвам гэтае Міністэрства займаецца і апякуецца.
Панове,ні беларускі,ні ўкраінскі народы надалей таго цярпець не змогуць.Бачыце ўжо панове,што народ інстынктыўна,сам па сабе,пачынае змагацца і калі бачыце гэты рух... / Пасол Янкоўскі: Бо вы падбухторваеце!/ Гэта не ёсць падбухторванне,не ёсць гэта інспіраванае з-за мяжы,але гэта ёсць інстынктыўна барацьба народа за свае правы.Калі ў гэтым напрамку пойдзе г.з. зямельная рэформа,так як планавалася гэта дагэтуль, тады дачакаецеся сапраўды таго,пра што я ўжо гавару калісь з гэтай трыбуны - сялібы каланізатараў пойдуць з дымам! /Вялікі гоман.Галасы: Адабраць слова! У крымінал яго!/

Стэнаграфічная справаздача з 196 пасяджэння Сейму Рэчыпаспалітай ад 25 красавіка 1925г.

Бюджэтныя прэлімінары за 1925г. /агульныя дэбаты/.

-Абвінавачваеце нас у камунізме,ва ўзбуджванні дыверсійнага руху,а па сутнасці руху паўстанчага.Абвінавачваеце нас у тым,што не хочам поў-

насцю прызнаць польскай дзяржаўнасці,але ўспомніце,калі ласка,што мы прыйшлі сюды,у Сойм,каб трымацца законаў,мы былі цераз хвіліну наіўнымі,мы верылі ў канстытуцыйныя ілюзіі,мы думалі,што трактаты і Канстытуцыя сапраўды будуць гарантаваць правы.Хаця б мінімальныя грамадзянскія правы,хаця б мінімальныя палітычныя і нацыянальныя правы.
Мы прыйшлі ў гэты Сойм,каб змагацца за аўтаномію! /.../
Сёння нам трэба выразна сказаць нашаму народу,што там,дзе пануе буржуазія,дзе пануюць абшарнікі,а гэта яны валодаюць усёй краінай,не можа быць ані грамадскага вызвалення,ані якіх колечы нацыянальных правоў,не гаворачы ўжо пра аўтаномію.Няхай мужык наш зразумее,што толькі канчатковая змена ўраду,але не ўраду на гэтай лаўцы,а ўраду ва ўсёй краіне, можа даць яму вызваленне.Такая,менавіта змена,каб урад стаўся сялянска-работніцкім і каб урад гэты ўсю ўладу ўзяў у свае рукі.
Разумею,што ці так,ці інакш,ці дарогай вайны,ці як рэзультат гэтай вайны,у канцы ўспыхне сацыяльная рэвалюцыя і толькі тая сацыяльная рэвалюцыя можа даць нам палітычныя правы,можа прынесці нам нацыянальнае вызваленне і адраджэнне.Тады,у імя гэтай высокароднай ідэі,у імя сацыялізму нам трэба ісці ў масы і працаваць над іх свядомасцю.
Вядома,што такому ўраду,ураду не толькі капіталістаў і абшарнікаў,але і рэакцыйных клерыкалаў аніякай падтрымкі даць не можам і галасаваць будзем супраць бюджэта.

Стэнаграфічная справаздача з 288 пасяджэння Сейму Рэчыпаспалітай ад 25 чэрвеня 1926г.

Дыскусія па папаўненню правізорнага бюджэта.

-Калі справа тычыцца крэсаў,а асабліва беларускіх земляў,можна сказаць, што там прозвішча Пілсудскага не выклікала асаблівых надзей. /.../
Урад Пілсудскага,які так многа,высока і шырока гаварыў пра маральнасць, зараз нічога не гаворыць пра падатковыя завінавачанасці,пра тыя 740 мільёнаў,якія не былі заплачанымі абшарнікамі і буржуазіяй.
Вы ўсміхаецеся,добра вас разумею,што вы,як абшарнік усміхаецеся./Гэтыя словы накіраваныя ў бок Пілсудскага. -рэд-/
У грамадскай палітыцы ўсё,як быццам бы,на месцы,толькі курс больш жорсткі.Сам Пілсудскі,экс-рэвалюцыянер,тэрарыст,экс-сацыяліст,які змагаўся за вольнасць для свайго народа сёння з халодным сэрцам і розумам адносіцца да тысячаў гэтых людзей,найлепшых сыноў свайго народа і свайго сацыяльнага класа,якія змагаюцца за свабоду для сялян,рабочых і паняволеных народаў.
Хаця не ўсё яшчэ ў гэтай дыктатуры Пілсудскага крышталізавалася,усё ж такі,усё больш выразна відаць яе фашыстоўскі характар.Бачым нават велізарныя псіхічныя падабенствы Мусаліні з Пілсудскім.Абодва экс-рэвалюцыянеры,экс-сацыялісты,абодва экзальтаваныя велічынёй.Адзін велічынёй свайго народа,другі больш сваёй уласнай,усё ж такі,абодва несены неўтаймаванай фантазіяй велічыні размерамі ў гісторыі раней не сустраканымі.А калі справа ўжо пра спосаб праўлення,трэба сказаць,што гвалт,сіла, палка і кулак гаспадарнічаюць ужо ў Польшчы з большаю бадай свабодаю і жорткасцю чымсьці ў Італіі.
У нацыянальнай палітыцы трэба было б напомніць лозунг "маральнай санацыі",трэба было б напомніць,што рабіў Пілсудскі,якой была ягоная маральнасць,калі Польшча была прыгнечанай,калі Польшча была зняволенай. Маральнасцю Пілсудскага было тады змагацца,хаця б зброяю,браўнінгам,бомбаю!Маральнасцю Пілсудскага было тады нападаць на цягнікі,рабаваць касы, забіваць чыноўнікаў,клікаць не плаціць падаткаў.Ніхто сумленны не скажа,што можам іншую навуку,іншы спосаб дзеяння з гэтага вывесці,як толькі тое,што рабіў Пілсудскі.Не хачу аднак,каб мяне фальшыва зразумелі.Аб'яўляем,што сёння не бачым грунту для непасрэднага актыўнага дзеяння. Не ідзем дарогаю тэрору,асабліва індывідуальнага тэрору.Ідзем у масы з лозунгам нацыянальнага і сацыяльнага ўсведамлення.З лозунгам класавай салідарнасці,з лозунгам масавага змагання сялян і рабочых,плячо ў плячо, за самастанаўленне народаў,за сялянска-работніцкі ўрад,за разгром шляхты і буржуазіі,за грунтоўную перабудову ўсяго грамадскага ладу.




ЯНА НААДРЭЗ ЗАЯВІЛА, ШТО І НА ВОЧЫ БАЧЫЦЬ НЕ ХОЧА НІЯКАГА ЯГАЙЛЫ, БО ЯШЧЭ ПРЫ БАЦЬКУ-КАРАЛІ ЯЕ ЗВЯНЧАЛІ З КАРАЛЕВІЧАМ ВІЛЬГЕЛЬМАМ ГАБСБУРГАМ.




Працяг на стар. 10

Падчас З'езда беларускіх студэнтаў гаварылася, між іншым, пра вельмі балючую для нас усіх справу, а менавіта, пра змены гістарычных беларускіх назваў мясцовасцяў Беласточчыны. Праблема гэта не новая, наогул вядомая ды не раз ужо абгавораная, асабліва пасля васьмідзесятага году. На жаль, яна і зараз актуальная. З'езд вырашыў у гэтай справе накіраваць адпаведны ліст у Камісію для вызначання назваў мясцовасцяў пры Радзе Міністраў Польскай Народнай Рэспублікі. Дзеля бліжэйшага азнаямлення нашых чытачоў з гэтай праблемай друкуем матэрыял, падрыхтаваны спецыяльна для "Сустрэч" нашым сябрам Яраславам Яновічам.

# Спольшчванне назваў мясцовасцяў Беласточчыны

Яраслаў Яновіч

/НЕКАЛЬКІ ПРЫКЛАДАЎ/

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| SG[1] | Trościanica | Hrymiaczki | Huszczewina | Hredele | Kruhło, Kruhła |
| 1924 | -"- | -"- | -"- | -"- | Kruhłe |
| 1933 | Trześcianka (Trościanica) | Grymiaczki (Hrymiaczki) | -"- | Hredele (Gredele) | Kruhłe (Krugło) |
| 1962 | Trześcianka | Grymiaczki | Guszczewina | Gredale | Krugło |
| 1967 | -"- | -"- | -"- | Gredele | -"- |
| 1980 | -"- | -"- | -"- | -"- | -"-, dop. -łego |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| SG | Kruhłe | Kruhłe, Kruhle | Kruhlany | Horodczyno | Hradoczna | Górany, Gurany |
| 1924 | -"- | Kruhłe | -"- | Horodczyn | Hradeczna | Górany |
| 1933 | -"- | -"- | -"- | -"- | -"- | -"- |
| 1962 | -"- | Krógłe | Kruglany | Gorodczyno | Gradoczno | -"- |
| 1967 | -"- | Krugłe | -"- | -"- | -"- | -"- |
| 1980 | Krągłe | Kruhłe | -"- | -"- | -"- | -"- |
| m.n. | | | | | | Huranie, -an |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| SG | | Bogdanowszczyzna | Lasek Kruhły | Brzozowo Stare |
| 1924 | Bindziuha | | Kruhły Lasek | Stary Berezów |
| 1933 | -"- | | -"- | -"- (Stare Berezowo) |
| 1962 | Będziuga (Bindziuha) | Bogdaniec | Krugły Lasek (Kruhły Lasek) | Stary Berezów (Stare Berezowo) |
| 1967 | | Bohdaniec | Kruhły Lasek | Staroberezowo (S.Berezów) |
| 1980 | Bindziuga | Bogdaniec | Krugły Lasek | Stare Berezowo |

1. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego, Warszawa, 1880-1902.
1924 - Skorowidz miejscowości RP, t.V., GUS, Warszawa, 1924.
1933 - Skorowidz miejscowości RP, Przemyśl, 1933.
1962 - Skorowidz nazw miejscowości woj. białost., Białystok, 1962.
1967 - Spis miejscowości PRL, Warszawa, 1967.
1980 - Wykaz urzędowych nazw miejscowości w Polsce, W-wa, 1980-82.

m.n. - мясцовая назва, якою карыстаюцца жыхары.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| SG | Trościano | Trościanka | Orechwicze | Kutowa |
| 1924 | Trościano Nowe i St. | -"- | Orechowicze | -"- |
| 1933 | Trzcianne(Trościano)N. i St. | -"- | Orechwicze | -"- |
| 1962 | Trzciano N. i St. | Trzcianka | Orzechowicze | Kutowaja |
| 1967 | Trzcianno N. i St. | -"- | Orzechowice | -"- |
| 1980 | N. i St. Trzciano | -"- | Orzechowicze | Kutowa |
| m.n. | Novaje i Staroje Traścianoje | Traścianka | Or'echvičy | Kutov'aja |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| SG | Miakisze | | Przybudek | Pohreby,Pogreby | Hruzki | |
| 1924 | -"- | | -"- | Pohreby | -"- | Bobków Grud |
| 1933 | -"- | | -"- | Pogreby(Pohreby) | -"- | Bobków Gród |
| 1962 | Miękisze | Dubowik | Prybutki | Pogreby | Gruzka | Bobków Grud |
| 1967 | -"- | -"- | -"- | -"- | -"- | Bobków Gród |
| 1980 | -"- | Dębowik | Przybudki | -"- | -"- | Bobków-Gród |
| m.n. | Miakišy | | Prybudki | Pohryby | Hruskaja | Bobkaŭ Hrud |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| SG | Brzozowy al.Berezowy Grud,Gród Brzozowy | Gurzynów Gród, Hurynów | Gród Sowi | Gieniusze |
| 1924 | Brzozowy Grud | | Sowin Gród | Geniusze |
| 1933 | -"- | Górny Grud | -"- | -"- |
| 1962 | -"- | Górny Gród | Dubiny-Sowinny Grunt | -"- |
| 1967 | -"- | -"- | Dubiny-Sowinygrunt | Gieniusze |
| 1980 | Brzozowy Hrud | -"- | Sawiny Gród | Geniusze |
| m.n. | Biarozaŭ Hrud | Hurynoŭščyna, Hurynowy Hrud | Śaviny Hrud | H'ienijušy |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| SG | Gród Suchy | Białogórce | Chomentowce | Czochy | Dobrywody |
| 1924 | Suchy Grud | -"- | -"- | Czechy | -"- |
| 1933 | Suchy Gród | -"- | -"- | | -"- |
| 1962 | -"- | Białogorce | Chomontowce | Czechy Orlańskie | Dobrywoda |
| 1967 | Suchy Grud | Białogórce | Chomontowice | -"- | -"- |
| 1980 | Suchy Hrud | Białogorce | Chomontowce | -"- | Dobrowoda |
| m.n. | Such'i Hrud | Biełahorcy | K'omataŭcy | Cochi | Dobr'yvoda |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1924 | Biały Łuh | Długi Łuh | Dziewiczy Łuh | Kozłowy Łuh | Litwin Łuh |
| 1980 | Biały Ług | Długi Ług | Dziewięzy Ług | Kozłowy Ług | Litwinowy Ług |
| m.n. | Biełу Łuh | Doŭhi Łuh | Dzievicy Łuh | Kazłoŭ Łuh | Litvin Łuh |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 | Wroni Łuh | | | 1967 | Pomygacze | Potrzebowszczyzna |
| 1967 | Wroni Ług | Hały Ług | Grudy | 1980 | Pomigacze | Potrubowszczyzna |
| m.n. | Varoni Łuh | Hały Łuh | Hrudy | m.n. | Pom'ihačy | Patr'ubaŭščyna |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| SG | Bahny | Biełousy | Długosielce,Dołhosielce | Hilbowszczyzna | Hnilec |
| 1924-80 | Bagny | Białousy | Długosielce | Gilbowszczyzna | Gnilec |
| m.n. | Bahny | Biełausy | Daŭhasielcy | Hilbaŭščyna | Hnilec |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| SG | Ihryły | Rogacze,Rohacze | Błoto Berezowe | Brzozowy(Berezowy)Most |
| 1924-80 | Igryły | Rogacze | Brzozowe Błoto | Brzozowy Mostek |
| m.n. | Ihryły | Rahacy | Biarozava Bałoto | Biarozaŭ Mastok |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| SG | Brzozówka,Berezówka | Krywa | Kryże | Krywiec | Skinder | Staryna |
| 1924-8o | Brzozówka | Krzywa | Krzyże | Krzywiec | Skindzierz | Starzyna |
| m.n. | Biarozaŭka | Kryv'aja | Kryž'e | Kryv'iec | Skińdz'ier | Staryn'a |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| SG | Starynka | Wierchłowce | Repniki | Repiski | Trzyrzecze,Trirjeczje |
| 1924-8o | Starzynka | Wierzchłowce | Rzepniki | Rzepiski | Trzyrzecze |
| m.n. | Star'ynka | Vi'erchłaŭcy | Repniki | Repiski | Tryreč |

| | | | |
|---|---|---|---|
| SG | Trzyrzeczki,Trirjeczki | Wierzchlesie al. Wierchlas | Wierch Jedlina |
| 1924-8o | Trzyrzeczki | Wierzchlesie | Wierzchjedlina |
| m.n. | Tryrečki | Viarchl'es | Vierchjalina |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| SG | Piatak | Piatywołoki | Zajczyki | Jelanka | Bystry | Iliaszuki | Kleniki |
| 1924-8o | Piątak | Pięciowłóki | Zajączki | Jelonka | Bystre | Eliaszuki | Klejniki |
| m.n. | Piat'ak | Piacivałoki | Z'ajčyki | J'elanka | Bystry | (I)lašuki | Kleniki |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| SG | Suchenicze,Suchinicze | Sofipol | Jeziorysko | Dubnica |
| 1924 | Suchinicze | Sofipol(Perejma) | -"- | Dubnica Mała |
| 198o | Suchynicze | Sofipol | Jezierzysk | Dubnica Kurpiowska |
| m.n. | Suchiničy | Pierejma | Aziarysko | Dubnica |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 198o | Borsukowizna | Krasna Wieś | Lubejki | Podgaje | Ostrów Płn. i Płd. |
| m.n. | Barsukowina | Krasne Sełо | Lubiejki | Škiłandzie | Vostravo |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 198o | Grzybowszczyzna | Grzebienie | Gołubowszczyzna | Grabarka | Gonczary |
| m.n. | Hryboŭščyna | Hrebienie | Hałuboŭščyna | Hrabarka | Hancary |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1980 | Grabowiec | Grodziszczany | Grodzisko | Gruszki | Grzybowce | Ogrodniki |
| m.n. | Hraboveć | Haradziščany | Haradzisko | Hruški | Hrybaŭcy | Horodniki |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1980 | Pogorzelce | Niemirów | Rogożyn | Rygałówka | Wyzgi | Zabagonie |
| m.n. | Paharelcy | Nymyrovo | Haražyno | Ryhałoŭka | Vyzhi | Zabahonscyna |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1980 | Zagruszany | Zwierżany | Śniczany | Wygonowo | Sosnowy Brzeg | Orzeszkowo |
| m.n. | Zahrusanie | Źviriździanie | Śničanie | Vyhonovo | Sasnovy Bierah | Oreškovo |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1980 | Nurzec | Podrzeczany | Morze | Przewłoka | Przechody | Usnarz | Zubrzyca |
| m.n. | Nureć | Podrečany | More | Pierevołoka | Pierachody | Usnar | zubryca |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1980 | Zarzeczany | Wierzchowskie | Kozi Przeskok | Wólka | Wygonowska | Dąbrówka |
| m.n. | Zarečanie | Vierchoŭskie | Pereskok | Volka | (Vahanovska) | Dubraŭka |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1980 | Dąbrówki | Zajączniki | Dąbrowa | Ciemne Hałe | Czerlonka | Solniki |
| m.n. | Dubraŭki | Zaječniki | Dubrova | Ciomno Hało | Čerlanka | Salniki |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1980 | Juszkowy Gród | Wroczyńszczyzna | Zabłocie | Złotniki | Sorocza | Nóżka |
| m.n. | Juškaŭ Hrud | Varatynščyna | Zabołocie | Zołotniki | Soroča | Nožka |

1924 Hryniewicze Wielkie,1980 H.Duże.

Пералік гэты можна было б цягнуць далей.Бо ж нават такія "не найгоршыя" назвы як Соколда /Сокулда,I924/,ці Тальковшчызна,гэта ж не Сакалда і не Талькоўшчына... Практычна ёсць ано дэфармацыі меншыя або большыя. Таму найлепшым выхадам было б тут двухмоўе,як у Чэхаславаччыне ды ГДР /надпісы чэска-польскія і нямецка-лужыцкія/ - прэцэдэнсы ёсць і вельмі нядаўнія:Доўгі Брод /I984г./.Перашкоды могуць быць толькі з боку тых,хто не ведае,якія назвы цяпер існуюць у Польшчы /скажам Долгоброды ў люблінскім ваяводстве,Бэрэгы і г.д./.Трэба тут таксама паклікацца і на гістарычныя запісы - мы ж тут не ад учора /Douhi Brod,1792 h., Dołhi Brod,1795 h. - у польскіх дакументах/.
Трэба помніць і пра гэта,што дагэтуляшнія дэфармацыі нязгодныя з правам - паводле закону ўсе змены павінны быць абвешчаны ў Monitorze Polskim , чаго ніхто з творцаў новых назваў не зрабіў.
Прытым,як заўжды,найбольш тут /цяпер/ залежыць ад нас самых - глядзімо штодзень на пакручаныя афіцыйныя назвы і не пратэстуем.Бо,або здаецца гэта нам чымсьці мала важным,або немагчымым,не маем часу,або не хапае нам свядомасці,што калісь было інакш.А было,было...! Хоць часам некалькі вякоў таму назад,то іншы раз вельмі нядаўна.

Яраслаў Яновіч










Працяг на стар. 13

# БЕЛАРУСЬ, БЕЛАРУСЬ ...

У пятніцу I2 лютага, у дванаццаць гадзін занялі мы з калегам месцы ў цягніку Беласток - Гародня. Едзем па запрашэнню сябра. Гэта нашае першае падарожжа ў БССР. Абодва мы думаем пра тое, што пабачым, з кім пазнаёмімся. Побач з намі, у вялікім вагоне не дзеленым на купэ, шмат народу. У кожнага вялізны багаж, быццам бы ехаў за акіян, найменш на тры гады. Адзін Бог ведае, што яны там вязуць. Куды нашым невялікім рукзакам да іх. Нічога дзіўнага, што насцярожваюць яны савецкіх мытнікаў. Калі гаворым, што ў рукзаках кніжкі, пачынаецца дакладны кантроль.
Парнаграфіі не вязем. Усё добра, перад намі тыдзень побыту ў Гародні - адным са старэйшых гарадоў Беларусі, якому больш за 800 гадоў. Першыя ўражанні сумныя. Нідзе не чуваць беларускай мовы. Пацвярджаецца тое, аб чым у апошні час можна было прачытаць у беларускай прэсе; амаль камплетная адсутнасць беларускай мовы ў штодзённым жыцці. Жахліва!
Сустрэча з сябрамі прыводзіць нас у лепшы настрой. Размаўляем па-свойму. Адразу абмяркоўваем план нашай пабыўкі.
У суботу едзем у Гудзевіцкі літаратурна-этнаграфічны музей. Стварыў яго настаўнік Алесь Белакоз, супольна са сваімі вучнямі. Музей гэты - выключная справа. Заснаваны сціплымі сродкамі ў невялікай вёсцы стаў адным з цікавейшых ва ўсёй рэспубліцы. Глядзім экспанаты з захапленнем і павагай да стваральніка. Прыемнай нечаканасцю для нас экспанаты, якія паказваюць уклад беларусаў з Польшчы ў агульнанацыянальную культуру. Пісьмы і здымкі А. Бергман, Ю. Туронка, С. Яновіча. Асобны куточак прысвечаны паэту нашаніўскай пары М. Арлу, які родам з нашага Гарадка. З асаблівай пашанай захоўваецца тут памяць Ларысы Геніюш. Апошнія свае гады пражыла ў непадалёкім мястэчку Зэльва. У сваім складаным жыцці перайшла яна трагічны шлях, як амаль уся беларуская патрыятычная інтэлігенцыя сталінскага часу. Вечарам доўгая размова, якую працягваем у гасціннай атмасферы хаты Алеся Белакоза. У Гародню вяртаемся пасля поўначы.
У нядзелю вандроўка па Гародні шляхам помнікаў мінулага. Перад намі Барысаглебская царква, збудаваная ў другой палове XII ст.. Пастаўлена на высокім абрывістым берагу Нёмана, поўнасцю не захаваная. Цяпер рэстаўрыруецца. Ідзем глядзець касцёлы. Пачынаем ад фарнага, быўшага Езуіцкага - выдатнага помніка архітэктуры Беларусі ХУII - ХУIII ст.ст.. Зараз у ім ідзе таксама рэстаўрацыя, але і адбываюцца багаслужбы. У сярэдзіну зайсці не ўдалося. Далей Брыгідскі касцёл. Збудаваны ў першай палове ХУII ст., з'яўляецца таксама выдатным помнікам барока. Побач касцёла драўляны лямус з канца ХУII ст., з відавочнымі ўплывамі беларускага народнага будаўніцтва. Заходзім у Бернардынскі касцёл. Збудаваны ў ХУI і перабудаваны ў ХУII ст.. У яго архітэктуры відаць тры стылі: готыка, рэнесанс, барока. Ідзе якраз багаслужба. Літургія вядзецца на польскай мове, але перад касцёлам многа людзей гаворыць па-беларуску. Беларусы-католікі. Так як і ў нас, большасць лічыць сябе палякамі, хаця польскую мову ведаюць слаба. Непадалёк Бернардынскага касцёла царква Нараджэння Багародзіцы пры Базыльянскім манастыры. Цяпер музей рэлігіі і атэізму. Экспазіцыя паказвае "рост барацьбы народу супраць касцельнаму і царкоўнаму прыгнёту". Вечарам, змучаныя і галодныя, накіроўваемся ў рэстаран. На жаль, у двух рэстаранах "мест нет". У трэцім, злосныя, гаворым па-польску. Для гасцей з-за мяжы месцы адразу знайшліся.
Панядзелак. Зноў бадзяемся па горадзе. Знаёмімся з Данутай Бічэль-Загнетавай у Музеі Максіма Багдановіча. Невялічкі ён і экспанатаў у ім небагата, але ўмела і густоўна яны паказаны. Музей, гэта адно з нешматлікіх месц у Гародні, дзе беларуская мова знайшла азыль. Вечарам новыя знаёмствы. Дамаўляемся на чацвер, на паседжанне клуба "Паходня".
У аўторак едзем у Вільню. Прыязджаем пад вечар. Знаёмства з горадам адкладаем на заўтра. Затое гасціна ў хаце Лявона Луцкевіча і вельмі цікавая размова пра гісторыю беларускага руху ў Вільні.
У сераду з Хрысцінай Балаховіч адпраўляемся аглядаць Вільню. Абмежаваныя часам бяжым з аднаго цікавага месца ў другое. Касцёл Пятра і Паўла

на Антокалі /белая віленская барока/,Базыльянскія муры,Святадухаўскі праваслаўны манастыр,вуліца Завальная – звязаная з беларускім нацыянальным рухам,хвіліна задумы над лёсам нашых нацыянальных герояў у месцы арышту Кастуся Каліноўскага,Вострая брама.Міжвольна згадваецца Багдановічавая "Пагоня".Вільня,горад шматмоўны.На вуліцах можна пачуць літоўскую,расейскую,польскую,беларускую мовы.У штодзённым жыцці гэта нікому не перашкаджае.Шмат чаго не ўдалося пабачыць.Трэба было вяртацца ў Гародню.

Чацвер пачынаем з наведання Старога замка.Збудаваны ў часы Вітаўта,перабудаваны Сцяпанам Баторыям.Цяпер памяшчаецца ў ім Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей.Нашым экскурсаводам з'яўляецца Міхась Ткачоў, гісторык Гродзенскага універсітэта,аўтар кніжкі "Замкі Беларусі".Даведваемся пра новыя археалагічныя раскопкі,цікавыя знаходкі.У музеі здзіўляе нас прапорцыя экспазіцый.Шматвяковай гісторыі горада прысвечана некалькі невялікіх пакояў,астатнія залы паказваюць гісторыю рэвалюцыйнага руху ў Расейскай імперыі і Другую сусветную вайну.Мала цікавыя экспанаты,яшчэ менш каментарыі да іх.Вечарам ідзем на пасяджэнне клуба "Паходня"."Паходня" гуртуе зацікаўленых беларускай гісторыяй,літаратурай,культурай ды свядомую нацыянальную моладзь.На сустрэчы сказалі мы некалькі слоў пра беларусаў у Польшчы,студэнцкае асяроддзе,"Сустрэчы".Спаткаліся з вялікім зацікаўленнем,атрымалі шмат пытанняў.

Да ад'езду астаўся адзін дзень.Прысвяцілі яго пакупцы кніжак.Добра пахадзіўшы можна сабраць даволі цікавую бібліятэку,хаця кніжак беларускіх няшмат,але і зацікаўленне імі не надта вялікае.Вечарам апошняя, развітальная сустрэча з сябрамі.Гутарка пра беларускія цяжкія справы да позняй ночы.

А ў суботу,нагружаныя рукзакамі поўнымі кніжак,едзем на вакзал.Развітваемся з Гародняй.Эх,Беларусь,Беларусь...

Яўген Вапа










НЕСУМНЕННА, ЎСЁ ГЭТА З ПАДРАБЯЗНАСЦЯМІ БЫЛО ДОБРА ВЯДОМА НА ДВАРЫ Ў КРЭВЕ І САМОМУ ЯГАЙЛУ.



СПРАВЫ ШЛЮБУ І КАРАНАВАННЯ ПАЧАЛІ ЎСКЛАДНЯЦЦА. ПА-ПЕРШАЕ, УСЯ КРАСАЧНАСЦЬ ДЫ РАМАНТЫКА ГЭТАГА ВЯНЦА І ШЛЮБНАГА, І КАРАЛЕЎСКАГА РАПТАМ ЗБЛЯКЛА І АБЯРНУЛАСЯ Ў СКАНДАЛ, ЯКІМ РАЗАГРАВАЛІСЯ ДЫ ВЕСЯЛІЛІСЯ ПАНУЮЧЫЯ ДВАРЫ ЎСЯЕ ЕЎРОПЫ Ў ДОЎГІЯ АСЕННІЯ І ЗІМОВЫЯ ВЕЧАРЫ НА ПЕРАЛОМЕ 1385/6 ГАДОЎ.




2 ЛЮТАГА 1386 ГОДА З'ЕХАЛІСЯ ПРАДСТАЎНІКІ ПОЛЬСКАГА „НАРОДУ ШЛЯХЕЦКАГА" Ў ЛЮБЛІН І ПРЫБЫЎШАМУ ТУДЫ ЯГАЙЛУ, У ПРЫСУТНАСЦІ ЯГО ШМАТЛІКАЙ РАДНІ І ЗНАЦІ, АСАБІСТА ЗАЯВІЛІ, ШТО ВЫБІРАЮЦЬ ЯГО СВАІМ ПАНУЮЧЫМ. РУШЫЛА ВЕЛІЧНАЯ ЯГАЙЛАВА КАВАЛЬКАДА Ў КРАКАЎ. ПА ДАРОЗЕ ПРЫМАЎ ПАКЛОНЫ КНЯЗЁЎ І ВЯЛЬМОЖАЎ, ШТО ПРЫБЫВАЛІ З РОЗНЫХ КАНЦОЎ ПОЛЬШЧЫ



Працяг на стар.20

# УСПАМІН

25 чэрвеня 1981 года ўпаўнаважаныя прадстаўнікі трох свежа заснаваных студэнцкіх арганізацый - Беларускага аб'яднання студэнтаў,Згуртавання літоўскіх студэнтаў і Украінскага згуртавання студэнтаў у Польшчы - спаткаліся з уладамі Міністэрства навукі,вышэйшых школ і тэхнікі.Гаворка ішла пра законную рэгістрацыю трох нацыянальных студэнцкіх згуртаванняў.Міністэрства паставілася да нашай ініцыятывы непрыхільна.Мэты дзейнасці,прадстаўленыя намі ў статутах і праграмных дэкларацыях, можна - паводле ўлад - рэалізаваць у рамках існуючых ужо ў Польшчы студэнцкіх арганізацыяў.Тая частка статута,якая кранае нацыянальную спецыфіку нашага асяроддзя,моў,не тычыцца вышэйшых школ і гэтую дзейнасць можна весці ў рамках нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў. Я не буду тут прыводзіць нашыя рэплікі на такое афіцыйнае становішча;яны кожнаму з нас вядомыя.Нельга аднак не заўважыць,дзеля парадку,што такое становішча ўлад ніякім чынам не суадносілася з законам,канкрэтна,з распараджэннем у справе студэнцкіх арганізацый ад 18 снежня 1980г. Яго можна разглядаць толькі як крайні прыклад адвольнай інтэрпрэтацыі законнага акта.Справа аднак на нейкі час павісла ў паветры /мы тады яшчэ не атрымалі афіцыйнага вырашэння на паперы/.Як паведамлялася ў камунікаце Міністэрства,справа рэгістрацыі, моў,складаная і яе трэба абмеркаваць з іншымі зацікаўленымі міністэрствамі,таму канчатковае вырашэнне будзе праз месяц.Каб дакладна ўразумець тую затрымку,трэба хоць крыху ведаць грамадска-палітычныя абставіны тае пары ў краіне.Яны былі надзвычай няўстойлівымі.Занятая калатнечаю з "Салідарнасцю" улада не магла прадбачыць усіх фактараў,якія маглі паўплываць на далейшы ход падзей у грамадскім жыцці,таму і такая"маргінальная" справа,як студэнцкія нацыянальныя арганізацыі,набывала палітычны характар і яе вырашэнне,такое маю цяпер адчуванне, залежыла ад агульнага становішча.
Як бы там ні было,быў пачатак лета і канікул.Перад выездам з Варшавы дадому мы пабывалі ў сядзібах СЗПС /Сацыялістычнае згуртаванне польскіх студэнтаў/ і НЗС /Незалежнае згуртаванне студэнтаў/,намагаючыся зацікавіць польскіх сяброў нашым лёсам і шукаючы ў іх падтрымкі. Яны абяцалі закінуць за намі сваё слова.Аднак уражанне было такое,што болей іх цікавіць міжусобная калатнеча,чымся лёс нейкіх беларусаў,украінцаў,літоўцаў,пра існаванне якіх у Польшчы,яны першы раз пачулі. Палітыка этнічна аднароднай Польшчы,якая паслядоўна праводзілася ў 70-тых гадах,амаль назусім выкрэсліла з грамадскай свядомасці факт існавання нацыянальных меншасцяў.На наступную сустрэчу мы запрасілі прадстаўніка БГКТ,маючы на ўвазе,што ён таксама закіне сваё слова на нашу карысць.Што ж,часіна была незвычайная,таму - меркавалі мы - можа і БГКТ узнімецца вышэй за свой лёс і зробіць нешта незвычайнае.
29 ліпеня адбылося другое спатканне з прадстаўнікамі Міністэрства і іншых зацікаўленых міністэрстваў.Іншыя зацікаўленыя міністэрствы паведамілі нас,што яны не бачаць сэнсу існавання нейкіх яшчэ нацыянальных арганізацый.Нашае Міністэрства паўтарыла сваё становішча ад 25 чэрвеня і сказала нам:"да пабачэння".Мімаходам заўважу,што на спатканні прысутнічалі прадстаўнікі Літоўскага грамадска-культурнага таварыства, якія выказалі рашучую падтрымку студэнцкай ініцыятыве,звяртаючы увагу на абмежаванні ў дзейнасці таварыства,якое не ў змозе задаволіць патрэбы студэнцкага асяроддзя.Вядома ж,іхні голас нічога не змяніў,бо не ў аргументах была сутнасць справы.Афіцыйны адказ Міністэрства навукі, вышэйшых школ і тэхнікі памяшчаецца пад тэкстам гэтага ўспаміну /публікуецца ён упершыню/.
Таго ж самага дня стварылася студэнтамі-ўдзельнікамі спаткання ў Міністэрстве,Паразумеўчая камісія /мода на ўсялякія камісіі ў той час

была надта распаўсюджана/,якая мела далей весці справу легалізацыі студэнцкіх нацыянальных згуртаванняў.Усур'ёз разглядалася два спосабы змяніць непрыхільнае нам вырашэнне:даць нашу справу пад развагу нейкай камісіі ў Сейме,або дабівацца поспеху дарогаю судовага працэсу ў Галоўным адміністрацыйным судзе.Дзеля гэтага патрэбныя былі аднак грошы і неблагія сувязі,якіх мы не мелі.Таму я асабіста прапанаваў трэці -"кампрамісны"- спосаб: на нейкі час пакінуць думку пра агульнакраёвую студэнцкую арганізацыю і паспрабаваць рэгістрацыі пры паасобных вышэйшых школах,на што патрэбная была толькі згода рэктара. Такім чынам абміналася вырашэнне Міністэрства і ствараляся магчымасці ў будучыні яшчэ раз,ужо ў новых абставінах,паспрабаваць легалізацыі згуртавання ў агульнакраёвым абсягу.Такім пагадненнем і закончылася існаванне гэтай эфемернай Камісіі.
Пасля вакацый,восенню 1981 года,праца над рэгістрацыяй БАС-а ўзнавілася.Фармальна БАС не існаваў,але фактычна арганізацыя расла і мацавалася.24 кастрычніка ў Беластоку адбылося спатканне беларускіх студэнтаў з беластоцкага,люблінскага і варшаўскага асяроддзяў / прысутнічала каля 200 асоб/,на якім былі разгледжаныя вынікі арганізатарскай працы і прынята была пастанова аб рэгістрацыі "гурткоў" БАС-а пры вышэйшых школах.Настрой быў добры,ніхто нават не заікнуўся,што новая задума можа зноў праваліцца.Зрэшты,першыя звесткі пра адносіны рэктара Варшаўскага універсітэта,прафесара Самсановіча,да нашага праекту заснаваць БАС пры "ягонай" школе,былі падбадзёрваючыя.Цяпер аднак мне цяжка згадаць,што нас затрымлівала,чаму мы так марудзілі, ды так і не паспелі занесці статут "варшаўскага гуртка БАС-а"у рэктарат.Можа таму,што маючы справу амаль у кішэні,мы не надта спяшаліся і заняліся іншымі справамі.17-18 кастрычніка адбыўся першы беларускі студэнцкі рэйд "Залатая восень".Недзе ў лістападзе адбыліся ў Варшаве першыя беларускія атрасіны.Разглядаўся таксама праект выдавання беларускага студэнцкага часопіса,які быў здзейснены толькі ў 1983 годзе.Але пачаткі нашай студэнцкай выдавецкай справы былі закладзены ў тым жа перыядзе,у выглядзе дзвюх лістовак "Апошнія паведамленні БАС-а" /№1 і №2/.Трэці нумар так і не паспеў пабачыць свету, прапаўшы назаўсёды ў нейкім архіве Міністэрства ўнутраных спраў, куды ён трапіў разам з паперынамі НЗС-у /НЗС меў нам надрукаваць яго 50 экземпляраў;абяцаў зрабіць гэта на 14 снежня/.
Фармальна глянуўшы на справу,дзень 14 снежня ні для НЗС-у, ні для БАС-а не існаваў.Фактычна глянуўшы на.яе,БАС раз'ехаўся ў хаты на Беласточчыну і паддаўся суровым выпрабаванням ваеннага становішча. Увядзенне ваеннага становішча ў краіне замкнула першы,гераічны перыяд беларускага студэнцкага руху ў Польшчы.Другі перыяд,які дазволю сабе назваць схізматычным,пачаўся восенню 1982 года.Думаю,што ён таксама знойдзе нейкага летапісца,болей дастойнага за мяне,які пастараецца апісаць смуту,што ўзнікла тады на Беласточчыне дзеля пацехі ворагаў нашых.
Сёння я канчаю і жадаю ўсім студэнтам настойлівасці, вытрымкі ў дзейнасці на карысць беларускага студэнцкага руху.

Янка Максімюк


Warszawa, dn. 29 lipca 1981 r.

MINISTER
NAUKI, SZKOLNICTWA WYŻSZEGO I TECHNIKI

DM-420/42/81

Obywatel
Jan Goworko
Pełnomocnik członków założycieli
Białoruskiego Zrzeszenia Studentów

W związku ze złożonym projektem statutu oraz wnioskiem o zarejstrowanie organizacji p.n. Białoruskie Zrzeszenie Studentów informuję co następuje:

- przedstawione w statucie cele i zadania organizacji w znacznej części stanowią powtórzenie celów i zadań statutowych już istniejących organizacji studenckich o zasięgu ogólnokrajowym,
- część zadań statutowych, w szczególności dot. propagowania kultury białoruskiej oraz zaspokajanie członków organizacji w tym zakresie - nie wiąże się bezpośrednio z problematyką szkoły wyższej, a realizacja tych zadań jest możliwa w ramach istniejących w Polsce odpowiednich towarzystw społeczno-kulturalnych.

Biorąc pod uwagę powyższe względy uznaję rejestrację nowej organizacji o zasięgu ogólnokrajowym za nieuzasadnioną.

Zał. - zwrot dokumentów

z up. MINISTRA
PODSEKRETARZ STANU
mgr Jerzy Sablik

## Памяці бацькі

Кляпаюць,
кляпаюць
уранні мой боль:
чаму ж мы,мой тата,
не ссеклі з табой
на жэрдку для сена
тады ў бары
дрэва,з якога
стаіць табе крыж...

А ў лузе трава!
Дзе ж касцы той красы?
Ты,тата,у смерці
пазыч касы -
яе і кляпаць не патрэбна зусім.
І пойдзем мы ранак
траўлівы касіць.

І стане шчаслівым
і лёс,і ўкос,
і боль -
у двукоссі
з табой нашых кос.

## Баравы верш

Высокае,як голас бору,шчасце
сябе знайсці аднойчы у жыцці!
Якое шчасце ў бор,даўно апеты
паэтамі і птушкамі,ўвайсці.

З кашом лазовым пад руку,як з летам,
збіраць фальклор крамяны,баравы!
І раніцы настрой,калі,туманам
падняўшыся,запоўніў паплавы,

настой лясны ўдыхаючы,ўздыхнуў я
ля могілак вясковых за мастом,
Сцяжынка баравая пад нагамі
мне завілася радасна хвастом.

І сосны -хоць і вецер у галовах -
На роздуму дарогу навялі.
І кропелькі дажджу майго грыбнога
мяне забытай ласкай абдалі!

Я вырас вось пад гэтымі дажджамі.
Я вырас.
Ды расце мая любоў
да краю,
дзе ў бары густым аднойчы
сябе знайшоў,шукаючы грыбоў!

Станіслаў Валодзька
в.Падольцы,Гродзеншчына

# За вечны гвалт, за вечны здзек...

Сёлета спаўняецца 125-тая гадавіна выбуху Студзенскага паўстання.Гэтай падзеі прысвяціў нізку сваіх песень,вядомы не толькі ў БССР,бард Сяргей Сокалаў.Прапануем чытачам тэксты дзвюх з іх,разам з паясненнямі самога аўтара,якія даў ён падчас аднаго з канцэртаў.Запіс з плёнкі.

" Песня "Маналог Валеры Ўрублеўскага". Каб было крыху зразумела,я скажу,пра што гэта песня.Акрамя назвы "Маналог Ўрублеўскага" яна мае яшчэ другую назву:"Апошні бой Урублеўскага".Справа ў тым,што,калі паўстанне ўжо пачало патухаць,Валеры Ўрублеўскі не спыняў барацьбы,не спыняў змагання.І аднойчы,калі ён ехаў з невялічкім конным атрадам,на іх ззаду напалі казакі.Ён зразумеў,што ратавацца ўцёкамі,ну,не было сэнсу і таму адзінае выйсце,трэба было развярнуць коні назад і атакаваць,вось,казакаў.У гэтай бойцы ён быў моцна паранены,яго падабралі мясцовыя сяляне,схавалі ў панскім маёнтку,а потым пераправілі за мяжу.Ведаеце,ён пазней быў генералам Парыжскай камуны.Ну і такім чынам,вось,"Апошні бой Урублеўскага":

На скок казачы не суняць
Маланкі шабель,куляў град,
Але мы мусім бой прыняць
І я гукнуў: Назад!
Нязвыклы заклік супыніў
І нацягнуў аброць,
А гулкі бор прагаманіў
маё "назад" стакроць.
Назад,назад!
І коні рвуцца ў бой.
Назад,назад!
Калі супастат за табой.
Пазаднік ссечаны ўшчэнт,
Навокал звон,навокол кроў,
Ды не здаецца інсургент,
Ён помсціць за сяброў,
За вечны гвалт,за вечны здзек,
Бо до ўжо моўчкі спаць,
Ты чалавек,ты чалавек
І позна адступаць.
Назад,назад...
Клінок ударыў у клінок,
Казак не ўседзіў у сядле
І я прасунуўся на крок
Да вольніцы,але
Клінок другога казака
Ў маіх касцях завяз
І я зляцеўшы старчака
Гукнуў апошні раз:
Назад,назад...

Наступная песня - "Маналог Кастуся Каліноўскага",то значыць,таксама песня мае другую назву,называецца яна "Мужыцкая праўда №8".Ведаеце,што Каліноўскі выпускаў першую беларускую газету "Мужыцкая праўда".Выйшла яе сем нумароў,вось гэта,нейкім чынам атрымаўся восьмы нумар "Мужыцкай праўды".У тэксце згадваецца слова,якое ў нас,значыць,ва ўсіх выданнях вымагае нейкіх каментараў,хаця для мяне асабіста незразумела,навошта яны.Але паколькі яны патрабуюцца,я іх таксама даю.Слова "маскаль" Ка-

ліноўскі ўжываў практычна ў кожным нумары газеты і яно,паводле зносак, якія даюцца ў нас у выданнях,абазначала царскіх слуг.

Дзецюкі,хіба здушылі
Ў вашых душах прагу волі,
Ці братамі,што ў магіле,
Нехта вымаліў патолю,
Ці спынілі вас у лёце
Дзіды,скінуўшы на травы,
Ці на слізкім павароце
З панталыку збіў няправы?

Да вясны дажыць патрэбна,
Да вясны,да вясны!
Душы зноўку прагнуць бою,
Грудзі вольных вятроў,
Што з таго,што світкай згрэбнай
Ледзь прыкрытыя яны,
Як пад кожнай світкай тою
Сэрца мужных ваяроў.

Хай звярэе цар у шале,
Хай у шале цар лютуе,
Мы пазбавім сэрцы жалю,
Мы сваю зямлю ратуем.
Мы крывёй і мазалямі
Скінем іхных благароддзій,
Зможам тых,хто маскалямі
Называецца ў народзе.

Толькі шыбеніцы рукі,
Чорнай шыбеніцы,
Дацягнуліся да шыі
І не здрадзілі,не!
Упіліся бы гадзюкі,
Бы цярновыя вянцы,
Потым войкнулі нямыя
І застылі,як у сне.

Што з таго,што я загінуў,
Касінера меней стала
І ўсяго,а над Айчынай
Не паменшала навала.
Дык ухопім разам зброю,
Спляжым звера,знішчым звера,
Каб звінелі над зямлёю
Песні вольных касінераў.

Беларусь,мая матуля,
Беларусь,Беларусь,
Заквітней чароўнай краскай,
Паланіўшы абшар.
Ні пятлі,ні здраднай кулі
Не скарыўся твой Кастусь,
Касінер навечны Яська,
Што з-пад Вільні гаспадар."

"УСХОДНЯМУ ДЗІКУНУ І СТРАШЫЛІШЧЫ", БО ТАКІМ МАЛЯВАЛІ ЯГАЙЛУ ГАБСБУРГАВЫ І КРЫЖАЦКІЯ АГЕНТЫ.

СЯРОД ІХ БЫЎ ТАКСАМА І ПАТАЕМНЫ ЯДВІГІН ПАСЛАНЕЦ, ЯКОМУ КАРАЛЕВА ДАРУЧЫЛА ДАКЛАДНА ПРЫГЛЯДЗЕЦЦА...

АЛЬГЕРДАВІЧ, ЗВЕДАЎШЫ АД СВАІХ ШПЁНАЎ ПРА ТАКУЮ АСАБЛІВУЮ МІСІЮ ПАНА ЗАВІШЫ З АЛЕСНІЦЫ, ЗАПРАСІЎ ЯГО РАЗАМ У... ЛАЗНЮ, КАБ ДАЦЬ ТАМУ МАГЧЫМАСЦЬ ДАКЛАДНА ПРЫГЛЯДЗЕЦЦА ЎСІМ ПАДРАБЯЗНАСЦЯМ.



МАБЫЦЬ, ТОЙ НЕ ЗНАЙШОЎ НІЯКАЙ ЗАГАНЫ,

БО ПОТЫМ ДАНОСІЎ СВАЁЙ ПАНІ, ШТО:



„У ЯГАЙЛЫ ЦЕЛА СКЛАДНАЕ І ПРЫСТОЙНАЕ, ПОГЛЯД ВЯСЁЛЫ І ТВАР СУХАШЧАВЫ, ЗУСІМ НЕ БРЫДКІ, ЯК ТО ІНШЫЯ РАЗКАЗВАЮЦЬ"

Працяг на стар.29

# Мастацтва ёсць таямніца

Слова "авангард" займела асаблівае месца ў сучасным мастацтве.Яно называе не толькі адзін мастацкі кірунак,а нат не толькі вялікую мастацкую плынь дваццатых гадоў,але сукупнасць дзеянняў і кірункаў найбольш характэрных нашаму стагоддзю.Зразумела,не адзін авангард,ды і не ўсюды...
Але наперакор усім /даволі шматлікім/ прадказванням пра смерць авангарду,выдаецца ён і сёння ўсё яшчэ ідэяй свежай,якая можа быць жыццядайнай крыніцай для многіх новых кірункаў і мастакоў.
Беларусь была адной з краін,дзе нараджалася авангардная думка.У Віцебску дзейнічалі Малевіч,Лісіцкі і шмат хто яшчэ з прапаведнікаў новага.
Іх дзейнасць была спынена бюракратычным загадам,пасля якога мастацтва на доўгія гады пайшло ў батракі служыць ідэалогіі.
Вобраз сучаснага беларускага мастацтва не можа цешыць.Зразумела,не з-за адсутнасці "авангарду" - думаць так было б наіўна.Аднак...Аднак адчуваецца неабходнасць нечага новага,свежага,што прыдало б жыцця абмярцвелым карцінам і скульптурам.Ці можна чакаць такога ад маладых ?
Алег Аблажэй - адзін з іх.Жыве і працуе ў Вільні.На мастацтва ў яго ўласны погляд.Лічу яго цікавым,хаця не магу сказаць,каб я зусім з ім згаджаўся.Не ў тым справа.Галоўнае,каб думка нараджалася ў атмасферы свабоднай дыскусіі,каб погляды і меркаванні папаўнялі адзін аднаго,а то проста існавалі побач сябе.Няма манаполіі на праўду ў жыцці,няма яе і ў мастацтве.Патрэбны вольны абмен думак.Вось і дзеля таго я аддаю ў рукі чытачоў фрагмент лісту,які напісаў мне Алег.

Валянцін Сельвесюк.

/.../ А што датычыць мастацтва,то ў ва ўсім свеце ў мастакоў цяпер складаная сітуацыя,а тут,у нас,тым больш.
У нас мастак вечна знаходзіцца паміж Сцылай і Харыбдай - паміж афіцыйна дазволеным і прызнаным мастацтвам,якое выстаўляецца,друкуецца ў часопісах,аплочваецца і г.д. і модай,якая праследуецца і на выстаўкі не дапускаецца,але затое стварае мастаку славу "непрызнанага генія" сярод снобаў.
Праўда,у Мінску нядаўна ўжо адбылася адна выстаўка такога "нефармальнага" мастацтва - я нават там быў сам.Усё як належыць - і рваныя газеты,і абстракцыя,і "сюр" - усё,што можна бачыць ужо даўным даўно ў часопісах, за мяжой - я ў час наведвання Польшчы ў 1980 годзе наглядзеўся такіх рэчаў аж надта.
Які мой пагляд на ўсё гэта?На маю думку,праўда не проста пасярэдзіне паміж прымітыўным"соцрэалізмам" і "авангардам",а - вышэй.
Мастакі дзеляцца на дзве групы - адны імкнуцца стварыць мастацтва,другія хочуць нешта сказаць.
Таму асноўны клопат першых - каб іх творы як мага больш былі падобнымі на ўсё тое,што або ўжо атрымала прызнанне,ці вось-вось атрымае,хоць бы "нягласнае".Яны ліхаманкава рыюцца ў часопісах,стараюцца не адстаць,не прапусціць ніякіх новых модных кірункаў.
Другія больш жывуць унутраным жыццём,іх праўда марудна і з болем выспявае ў іх саміх,тое,што з'яўляецца з-пад іх пэндзля не адпавядае не толькі модзе,а часта непадуладна ім самім,бо іначай яны не могуць.Але сапраўднае мастацтва ствараюць толькі яны.
Што трэба сачыць за ўсім,што ствараецца ў сусветным мастацтве - аксіёма.
Але,што трэба падыходзіць да ўсяго гэтага крытычна - таксама ж верная праўда.

Калі я бываю ў Эрмітажы і праходжу ўсе залы,ад старых майстроў да нашых часоў,я думаю не толькі аб тым,што набыта і знойдзена,але і аб тым,што яшчэ больш страчана.
Калі я бачу,скажам,у альбоме польскага мастацтва рэпрадукцыю Генрыка Стажэўскага



/амаль дакладная перамалёўка/

а побач яго ж разважанні на цэлую старонку аб тым,што "sztuka abstrakcyjna przenosi nas w wyższe rejony myślenia i odczuwania" - то я толькі паціскаю плячамі.Вядома,месца ў мастацтве ўсім хопіць і няхай сабе дзядуля сапраўды лічыць,што ўсё папярэдняе мастацтва ад Фідыя,Рэмбранта,Эль Грэка і Ван Гога служыла толькі падмуркам для яго,Стажэўскага,"раёнаў мыслення".На здароўе,навошта спрачацца,хай такія думкі сагрэюць яго паважаную старасць - але чаму я павінен следаваць такому глупству? Спрачацца з усім гэтым не мае ніякага сэнсу - такія людзі ў спрэчках заўсёды пераможуць,"авангард" увогуле на 99% складаецца з доказаў,што ён ёсць мастацтва.
Аднойчы я пераклаў з часопіса "Sztuka" "рэпартаж" аб чарговым хэпенінгу, напісаны ідыёцкім "мастацтвазнаўчым" жаргонам,а побач,карыстаючыся тымі ж выразамі,апісаў,як у нас у вёсцы адзін дзядзька настолькі напіўся,што не мог адарвацца ад плоту і ўся яго сям'я прыходзіла яго адрываць ад гэтай апоры.І якое ж было маё здзіўленне,калі мой сябар прыняў усё гэта за чыстую манету і пачаў усур'ёз распытваць,хто быў аўтарам таго хэпенінгу,які мастак,і як гэта добра,што сучаснае мастацтва зайшло і ў "глыбінку"... Якія тут могуць быць каментарыі ці спрэчкі.Трэба рабіць сваё ды ўсё тут.І ўвогуле,я цвяроза ацэньваю свае здольнасці і бачу,што ў любым выпадку мастацтва ад маіх твораў не будзе мець ані вялікага прыбытку,калі я яго зраблю,ані вялікай нястачы,калі яго не будзе - таму не варта клапаціцца аб месцы,маштабе,- проста трэба перанесці на палатно ці на паперу тое,што нараджаецца ўнутры - а мода хай застаецца для іншых.

/.../ А пра мастацтва - яшчэ такая думка.Калі,скажам,у канцы XIXст.імпрэсіяністаў,толькі за тое,што яны цені малявалі блакітнымі,а не чорнымі,дамы гатовы былі закалоць парасолькамі,а крытыкі закідаць кацялкамі і цыліндрамі - то ў наш час,нават калі мастак проста плюне на палатно, або нават і ў пыск крытыку,крытык не абурыцца,не - вучоны крытык пабяжыць дадому і напіша ўзорыста-ўрачысты артыкул у часопіс "Sztuka" аб пошуках і знаходках такой,напрыклад,мовай:

"Tworzywem jest tu wszystko to,co jest na zewnątrz nas i w nas.Być może - spowoduje ono u jednostki poczucie wolności,wzmożoną świadomość indywidualną oraz twórcze odnalezienie siebie,w nieuniknionym przecież,anonimowym bycie zbiorowym.
:"Poczynania,będące w zamierzeniu swym wynikiem świadomego działania neutralnego,najczystszą i wiodącą postać osiągnąć mogą w dokonaniach, których istotą pozbawioną cech skojarzeniowo-znaczeniowych i narracyjnych - zawarta jest,przede wszystkim w warstwie logiczno-wizualno-zmysłowej."

/Jerzy Kosołowicz,"Sztuka", 4/5,1978./

Мяне вельмі ўражвае і захапляе пастава амерыканскага мастака Уайста, які пасярод гэтага ўсяго "лагічна-візуальна-змысловага" абсурду здолеў стварыць сваё ўласнае магутнае мастацтва – і выйшаў пераможцам.
Здзіўляе ж сама пазіцыя авангардыстаў – калі ў канцы XIX стагоддзя акадэмізм ужо быў эпігонствам класіцызму, які існаваў у 20-тыя – 30-тыя гады XIX ст. – то чаму "авангард" лічыць па-ранейшаму наватарствам тое, што рабілася ўжо амаль сто гадоў таму?!
Эпігонства ёсць эпігонствам у любым выпадку. І да мастацтва не вядзе.
Нядаўна ў нас адбылася выстаўка аднаго літоўскага мастака, які малюе проста асобныя прадметы – каляскі, фрукты, нават шчэпкі... і ўсё гэта ў яго МАСТАЦТВА !
Мастацтва ёсць таямніца – а ўсе тэрміны – "рэалізм", "авангард" – да Д'ЯБЛА !

Алег Аблажэй

I5.XII.I987г. памёр Віктар Ярмалковіч – патрыёт, дзеяч Беларускага студэнцкага саюзу ва Універсітэце імя Сцяпана Баторыя ў Вільні, даследчык беларускай гісторыі.



Нарадзіўся ён 23.XII.I9I6г. /паводле старога стылю/ у вёсцы Юшкі /сёння Літоўская ССР/. Пачатковую школу закончыў у Табарышках. Навуку працягваў у гімназіі ў Друі, а пасля ў Беларускай гімназіі ў Вільні, якую закончыў у I936г. У гадах I936–40 вучыўся на аддзяленні юрыстыкі і грамадскіх навук віленскага Універсітэта імя С.Баторыя. З'яўляўся тады актыўным членам Беларускага студэнцкага саюзу. У гадах I937-38 быў адказным рэдактарам "Хрысціянскай думкі". У жніўні I939г. арыштаваны. Апынуўся ў Картуз-Бярозе, адкуль неўзабаве вызваліла яго вайна. Пасля выхаду з турмы закончыў вучобу ва універсітэце. З I940 па I944 працуе юрыстам у Вільні, Лідзе і Шчучыне. У I945г. пераехаў у Польшчу і пасяліўся ў Біскупцы /Усходняя Прусія/. У I949 арыштаваны разам з жонкай.
Год пазней вярнуліся яны ў Вільню і працавалі як настаўнікі ў пачатковай школе ў Старым Сяле. Віктар Ярмалковіч быў яе дырэктарам. У I952 зноў арыштаваны і прысуджаны на 25 гадоў лагера. У I956г. Камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР разглянула справу Ярмалковіча і як нявіннага, вызваліла. У I957г. разам з жонкай і сынам вярнуўся ў Біскупец, дзе пражываў да канца жыцця.

З'яўляецца аўтарам:
-зацемкі пра ксяндза Адама Станкевіча ў "Польскім біяграфічным слоўніку"
-артыкулаў:
"Беларускі студэнцкі саюз у Вільні", "Сустрэчы" №5
"Беларуская хрысціянская дэмакратыя", "Вензь" №II-I2/I986г.

27.06.'87.

Усё сведчыць пра тое,што старажытны абрад беларускага народа - Купалле - адраджаецца.Сёлета купальскія вогнішчы гарэлі ў многіх месцах Беластоцкага Краю.Сярод іх і студэнцкае,над рэчкай у Супраслі.Яшчэ раз сям'я Латышонкаў аказала нам вялікую дапамогу.

26 - 29.06.'87.

Вучні сярэдніх школ не схацелі "плесціся ў хвасце" на студэнцкіх рэйдах і самі наладзілі вандраванне з Бельска ў Залешаны ды запрасілі на яго старэйшых сяброў,якія,поўныя захаплення для арганізатараў,жадаюць падобных удач у будучыні.Так трымаць !

I4 - I9.07.'87.

Адбыўся студэнцкі рэйд "Бацькаўшчына 4".Ягоная траса вяла з Заблудава, цераз Нарву,Плескі,Бельск,Орлю,у Царкоўныя Дубічы.Большасць гэтых мясцовасцей мае багатую гісторыю.Некаторыя,у свой час,былі значнымі гарадамі,эканамічнымі і культурнымі цэнтрамі /Заблудаў,Нарва,Бельск,Орля/. Сёння іх значэнне панізілася,можа апрача аднаго Бельска,тым не менш , застаюцца яны важным элементам гістарычнай і нацыянальнай свядомасці. На рэйдзе мы пазнаёміліся з захаванымі гістарычнымі помнікамі,паслухалі дакладаў Міколы Гайдука,Алега Латышонка,Мікалая Ляшчынскага,Сакрата Яновіча.Рэйд быў не толькі нагодай,каб навучыцца гісторыі ды пагутарыць, але таксама добра адпачыць у вясёлай кампаніі шчырых сяброў,паспяваць родныя песні,пагаварыць аб будучыні.На рэйдзе ўпершыню пачулі мы беларускую рок-музыку ў выкананні мінскіх калектываў Мроя і Бонда.Паўстала таксама новая песня "Вера" на словы паэта Андрэя Сцепанюка.Верш "Вера", напісаны на сотую гадавіну з дня нараджэння Алеся Гаруна,надрукавалі мы ў шостым нумары "Сустрэч".
Як заўсёды дапамаглі нам добразычлівыя для беларускай справы людзі.Без іх помачы рэйд не мог бы ажыццявіцца.Усім ім сардэчна дзякуем.

2I.07.'87.

Варшаўскі аддзел БГКТ атрымаў новае памяшканне на свой клуб і перабраўся з вуліцы Сэнаторскай на Старосьцінскую I6.Разам з клубам змянілася і месцапрабыванне рэдакцыі "Сустрэч".Дарагія чытачы,перад тым,як выслаць нам пісьмо,дакладна прачытайце новы адрас у канцы часопіса.

30.08.'87.

У памяшканні бельскага аддзела БГКТ спаткаліся ўдзельнікі чэрвеньскага рэйда беларускіх вучняў.Адразу дагаварыліся яны наконт другога гэткага ж мерапрыемства.На сустрэчы прысутны быў старшыня гародзенскага беларускага клуба "Паходня" - Мікола Таранда,які багата расказаў пра працу свайго клуба.

3.09.'87.

Маладзёжная секцыя,што існуе пры варшаўскім аддзеле БГКТ,накіравала Гродзенскаму гарадскому маладзёжнаму Цэнтру ліст з прапановай наладзіць сувязі.У пачатку лістапада прыйшоў адказ,у якім сябры з БССР паінфармавалі нас пра існаванне розных клубаў і секцый пры іхнім Цэнтры.Але да сапраўдных кантактаў таксама далёка,як і было.

21.09.'87.

Ужо трэці раз,у канцы летніх канікул,сустрэліся мы ў Бельску,каб абмеркаваць план дзейнасці ў будучым навучальным годзе.Сустрэча праходзіла ў вельмі прыемнай атмасферы,што было заслугай гаспадыні Элі Ваўранюк і ейных бацькоў.У сустрэчы прыняў удзел наш старэйшы сябра Юрка Турэнак.

2 - 4.10.'87.

Праведзены быў другі вучнёўскі рэйд,які пачаўся вечарынкай у Гайнаўскім беларускім ліцэі,а завяршыўся вогнішчам у Доўгім Бродзе - невялікай вёсцы на скраі Белавежскае пушчы.Прыемна адзначыць,што дырэктар Аляксандр Іванюк прыхільна аднёсся да ініцыятывы вучняў і аказаў ім сваю дапамогу.

8.10.'87.

У галерэі Бюро мастацкіх выставак "Арсенал" Лёнік Тарасэвіч паказаў свае новыя карціны жыхарам Беластока.Міжнародныя поспехі зрабілі вядомай на Беласточчыне постаць Лёніка,але не ягоную творчасць.Нічога тады дзіўнага,што на вернісаж публіка валіла натоўпам.Для многіх прыемнай нечаканасцю аказаўся двухмоўны польска-беларускі каталог.Некаторыя палічылі гэта за яшчэ адну фанабэрыю "разбэшчанага мастака".

12.10.'87.

У памешканні дома культуры "За жалезнай брамай" выступіў з дакладам Сакрат Яновіч.Тэма ягонага даклада,гэта:"Фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў у канцы 19 і пачатку 20 ст.ст."Арганізаваў сустрэчу дыскусійны клуб "Помост",заснаваны варшаўскімі студэнтамі-палякамі,з мэтай вывучэння гісторыі Беларусі,Украіны і Літвы.

23 - 25.10.'87.

Айцы Езуіты наладзілі ў Лодзі навуковую сесію,прысвечаную беларусам, літоўцам і ўкраінцам.Выклікала яна вялікае зацікаўленне ў польскім грамадстве.

7.11.'87.

У студэнцкім клубе "Убаб",што на вуліцы Кіцкага 9 адбыліся сёмыя ўжо атрасіны студэнтаў-першакурснікаў варшаўскіх вышэйшых навучальных устаноў.Было атрэсеных,а затым прынятых у рады студэнтаў 29 асоб.

13.II 7.

Атрасіны ў Беластоку,гэта вялікае свята тамтэйшага маладзёжнага асяроддзя.На іх прыходзяць усе,каго толькі хвароба не запрэ ў пасцель, нават тыя,што да гэтай пары ано на навагоднім балю ставалі беларусамі.

20.II.'87.

Клуб "Акцэнт" быў месцам,дзе варшаўскія студэнты наладзілі запусты.

22.II.'87.

У Беластоцкай філармоніі адбыліся два канцэрты музычнага калектыву "Дубіны".Шчасце мелі тыя жыхары Беластока,якія паклапаціліся пра білеты загадзя,бо перад самымі канцэртамі нат слёзы не маглі ў нічым дапагчы.

9.I2.'87.

Студэнткі першага курса беларускай філалогіі,пры дапамозе старэйшай сяброўкі Ані Кандрацюк,наладзілі ў варшаўскім клубе БГКТ вечар паэзіі Наталлі Арсеневай.

I0 - I3.I2.'87.

Праводзіўся кангрэс Згуртавання польскіх студэнтаў.У кангрэсе прыняў удзел прадстаўнік Беларускай рады культуры,на жаль,без права голасу, а толькі,як назіральнік.

I2.I2.'87.

У Варшаве адбыўся прагляд творчасці студэнтаў нацыянальных меншасцяў.З нашага боку выступілі: Алік Петручук,калектыў "Дубіны" і невялікі хор прыгожых дзяўчат з Гайнаўскага беларускага ліцэя.

I4.I2.'87.

Чарговая сустрэча ў дыскусійным клубе "Помост".На гэты раз дакладчыкам быў малады беларускі гісторык Алег Латышонак.Гаварыў ён пра Пілсудскага,Жэлігоўскага,Булак-Балаховіча і спробы федэрацыі польска-беларускай у I920 годзе.

I3.0I.'88.

"Шчодры вечар 87" студэнты правадзілі не на балі ў Беластоку,як гэта было ў папярэдніх гадах,але на нешматлюдных,утульных parties .Рэдакцыя гуляла ў сябе - на Старасцінскай I6.

2I.0I.'88.

У памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ адбылася сустрэча з праф.Ежы Тамашэўскім,вялікім прыхільнікам беларусаў.Дыскусія ішла пра найнавейшыя доследы нацыянальных меншасцяў польскімі навукоўцамі,пра патрэбы меншасцяў і магчымасці іх рэалізацыі.

**пошта**







Recommandé

Рэдакцыі „Сустрэч" WARSZAWA 00 082

Пажаданні пісьменніка Яўгена Лецкі беларускім студэнтам у Польшчы:

"Дарагія дзяўчаты і хлопцы !
Ад шчырага сэрца віншую Вас з надыходзячым Новым годам,з нашым спрадвечным беларускім святам – Калядамі.Зычу Вам поспехаў,жыццёвых радасцяў і шчасця,надалей утрымліваць бадзёрасць духу,які ёсць і павінен быць зарукай нашай будучыні.Сустрэча з Вамі падмацавала надзеі, што беларусы,як нацыя,выстаяць у нялёгкіх жыццёвых нягодах і навалах.

Яўген Лецка,Мінск"

"Добры дзень "Сустрэчы".
Пару месяцаў таму назад д-р.Ала Орса-Рамана у Нью-Йорку пераслала мне два нумары Вашага журнала "Сутрэчы",якія вельмі зацікавілі і ўзварушылі мяне.Мне спанукала напісаць да Вас,сябры,каб навязаць лучнасць,калі гэта магчымае.
У першую чаргу скажу,хто я.Называюся Алесь Шаршуновіч,родам з Бернацкага Мосту,гміна Нараўка.Ад шасці гадоў прабываю на Захадзе,з чаго чаго чатыры ў Канадзе.Ад самага пачатку знаходжуся ў лучнасці з беларусамі на гэтым кантыненце.Тут,у Канадзе,маем Згуртаванне беларусаў Канады,арганізацыю,да якой і я належу.Нямнога нас тут,беласточчыкаў,усіх можна палічыць на пальцах аднае рукі.Адзін з іх называецца Сцяпан Прахарук,з якім заснавалі мы Канадскае таварыства "Беларусь",для культурных сувязяў з Беларуссю.Мы зацікаўлены і Вашай беларускай культурнай дзейнасцю.Цяжка славамі выказаць нам,як моцна цэнім вашыя дасягненні на нацыянальна-культурнай ніве беларускага жыцця ў Польшчы./.../
У наступным годзе /1988/ прадбачваецца шмат працы на культурна-грамадскай ніве.Мы поўным ходам гатовімся да 18 Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі,якая адбудзецца ў Таронце.На гэтую ўрачыстасць запрашаем вакальна-інструментальны ансамбль "Дубіны" з Гайнаўкі.Хочам таксама запрасіць кагосьці з Вашага рэдакцыйнага калектыву,ды са старэйшых дзеячоў БГКТ,з "Нівы"./.../
Вітаем Вас з радасным святам Нараджэння Хрыстовага і жадаем шчаслівага Новага 1988 году.

З паважаннем Алесь Шаршуновіч."

Шчыра дзякуем нашаму суайчынніку з-за акіяна і за высокую ацэнку нашай дзейнасці,і за запрашэнне ў Канаду,але перад усім,за тое,што далёка ад бацькаўшчыны стараецца ён папулярызаваць беларускую справу.Жадаем як мага больш поспехаў у задуманай дзейнасці і самых шырокіх сувязяў з Беларуссю.

## сустрэчы

"SPOTKANIA" – pismo Rady Naczelnej Zrzeszenia Studentów Polskich. Wydaje Rada Kultury Studentów Mniejszości Narodowych K R K Z S P
Аднадзёнка,№8-9,Варшава,1988.

Яўген Вапа,Мікола Ваўра[illegible]юк,
Лёнік Тарасэвіч /мастак /,
Хрысціна Гаўрылюк,Валянцін Сельвесюк /галоўны рэдактар /,
Ялянта Панфілюк,Юрка Лятычынскі,Аляксандр Петручук /фота/,
Аляксандр Максімюк.
адрас: BTSK,ul.Starościńska 1b,skr.pocz.[illegible],[illegible]arszawa,Poland

І ПА МЕРЫ ТАГО ЯК ЯГАЙЛАВА СВІТА НАБЛІЖАЛАСЯ ДА КРАКАВА, МЯКЧЭЛА ЯДВІГІНА СЭРЦА.

НА ПОЛЬСКІ ТРОН УЗЫХОДЗІЎ ГАСПАДАР, А НЕ РАБАЎНІК. СКАРБЫ ЯК СЦВЯРДЖАЮЦЬ ГІСТОРЫКІ, БЫЛІ НЕ МАЛЫЯ, КАЛІ НА ВАВЕЛІ НЕ ХАПІЛА ІМ МЕСЦА І ТРЭБА БЫЛО НАНЯЦЬ У ГОРАДЗЕ АЖ ДЗВЕ КАМЯНІЦЫ, КАБ У ІХ ГЭТАЕ БАГАЦЦЕ ТРЫМАЦЬ, ПАКУЛЬ ПРЫ КАРАЛЕЎСКІМ ПАЛАЦЫ НЕ БЫЛА ПАБУДАВАНА АДПАВЕДНА АБШЫРНАЯ СКАРБНІЦА.
НЕ ПАСКУПІЎСЯ ЯГАЙЛА І НА ПАДАРУНКІ КАРАЛЕВЕ І ШМАТЛІКАМУ ЯЕ ДВАРУ – СЫПНУЎ ЗОЛАТАМ, ДАРАГІМ КАМЕННЕМ, СРЭБРАМ, КАШТОЎНЫМІ ТКАНІНАМІ.

ПРЫПАМІНАЮ ГЭТЫЯ ФАКТЫ ЎСІМ ТЫМ, ХТО НАЧЫТАЎСЯ РОЗНАЙ МАСЦІ ФАЛЬСІФІКАТАРАЎ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА І ПАВЕРЫЎ ІХНЯЙ ІЛЖЫ, БЫЦЦАМ БЕЛАРУСЬ – ГЭТА АДВЕЧНАЯ ГАЛЕЧА ДЫ АДСТАЛАСЦЬ.

МІКАЛАЙ ГАЙДУК. 1987 Г.

ЛЕНІК

На аснове: "Шляхам гадоў" М. Гайдука
адрэзак п.з. "Кароль з Віцебска"
"Ніва" № 43/1641/ 25.Х.1987г.

Universitas z.67/88 n.1200. U-14